# ПРАВА НА ВОЛЮ

№ 5
Сакавік 1998

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"




# АРХІПЕЛАГ БЕЛАРУСЬ

25 сакавіка ня доўга было сьвятам усяе Беларусі. Па сутнасьці ўрачыста, на афіцыйным, дзяржаўным узроўні адсьвяткавалі яго толькі аднойчы — пяць гадоў таму. Ня будзе адзначаць 80-годзьдзе свайго нараджэньня Дзяржава Беларусь і сёлета. Сталася так, што ўсё адметна-беларускае пачало лічыцца на гэтай зямлі не нацыянальным, а нацыяналістычным. І найперш — сапраўдная, не сфальсіфікаваная і не рафінаваная гісторыя, усё, што зьвязана зь бела-чырвонабелым сьцягам, з 700-гадовым гербам Пагоня, з барацьбой за незалежнасьць... Ды і сама згадка незалежнасьці паступова становіцца ў дзяржаве крамолай. Вітаецца толькі адное: уславеньне дружбы з Расіяй, падкрэсьліваньне адзінства гісторыі і будучыні — у адной дзяржаве. Болей за тое, думкі і жаданьні аднаго чалавека выдаюцца за волю народа, воля аднаго чалавека, праведзеная праз незаконныя і сфальсіфікаваныя рэферэндумы, выдаецца за рашэньне народа... І, зноў жа, любая спроба абараніць беларускую мову, альбо культуру, гісторыю, народныя звычаі... — называецца нацыяналізмам і калі не караецца, дык няшчадна перасьледуецца.

Беларусы, як нацыя, патрапілі сёньня ў жахлівую сітуацыю. Жахлівую — сваёй абсурднасьцю, ненатуральнасьцю, ненармальнасьцю. Карэнная нацыя, на сваёй роднай зямлі становіцца нацменшасьцю, такою не зьяўляючыся. У Беларусі цяпер жыве каля 80 працэнтаў беларусаў і каля 80 працэнтаў зь іх падчас апошняга перапісу (праведзенага яшчэ за камуністамі) роднай мовай назвалі беларускую. Аднак жа ў сталіцы краіны і ў буйнейшых гарадах зараз практычна няма ніводнай беларускамоўнай школы (сям-там захаваліся толькі асобныя класы). Што гэта, як не дыскрымінацыя карэннага насельніцтва, а калі сказаць больш жорстка і дакладна — моўнакультурны генацыд цэлага народа...

Так робіцца на дзяржаўным узроўні. На бытавым жа гэтая дыскрымінацыя выяўляецца яшчэ больш пачварна. Любая прадаўшчыца ў краме можа абразіць таго, хто загаворыць зь ёю па-беларуску. Сітуацыя, у якую патрапілі рускамоўныя грамадзяне ў Прыбалтыцы, ня йдзе ні ў якое параўнаньне з тым, што маюць беларускамоўныя беларусы ў Беларусі. Бо за тымі "рускімі" — Масква, якая заступаецца і бароніць правы рускіх (апошнія, дарэчы, вельмі спрэчныя, падзеі ў Латвіі гэта пацьвердзілі). Болей за тое, у нашым выпадку Масква становіцца зацікаўленым у русіфікацыі Беларусі бокам. І калі на афіцыйным узроўні яна дыпламатычна адмоўчваецца, то ўсялякія візіцёры русафілышавіністы не толькі вітаюць задушэньне ўсяго беларускага, але і дапамагаюць гэтаму.

Бяда беларускамоўных беларусаў ня ў тым, што, як камусьці можа падацца, іх мала. А ў іх распыленасьці, растворанасьці сярод рускамоўных і "трасянкавых" (тых, хто, як і прэзідэнт, гаворыць на сумесі беларускай і рускай моў). Паводле розных падлікаў, сёньня беларускамоўных беларусаў

(Працяг на стар. 3)

# ХРОНІКА

***27 лютага*** — **пад час пікету ў абарону палітзьняволеных, выстаўленага Аб'яднанай грамадзянскай партыяй, чыноўнік міністэрства юстыцыі, які прыйшоў на пікет з праверкаю, запатрабаваў у пікетчыкаў прыбраць сьцяг Еўрапейскага Саюза на той падставе, што ён не зарэгістраваны ў міністэрстве юстыцыі. Пікетчыкі адмовіліся выконваць гэтае патрабаваньне.**

***4 сакавіка*** — **у Гродні з будынка штабкватэры Беларускага Народнага Фронту міліцыяй былі зьняты зарэгістраваны сьцяг гэтай арганізацыі. Міліцыя напалоханая белчырвона-белымі колерамі гэтага сьцяга, які нагадвае былы дзяржаўны сьцяг Беларусі, заменены на "савецкі" сьцяг прэзідэнтам Лукашэнкам у 1995 г.**

***На 23 сакавіка*** **прызначаны суд над выпускнікам політэхнічнай акадэміі, сябрам "Маладога Фронту" Вадзімам Кабанчуком. Ён абвінавачваецца ў супраціўленьні работнікам міліцыі і ў актыўным удзеле ў несанкцыянаваных мерапрыемствах, акцыях апазіцыі ўвесну 1997 г.**

***У сакавіку*** — **беларуская пошта патрабуе ад тых, хто адпраўляе заказныя альбо каштоўныя лісты і бандэролі з Беларусі прад'явіць пашпарт, ці паказваць зьмест перасылаемых рэчаў. Такім чынам парушаецца канстытуцыйнае права беларусаў на таямніцу перапіскі.**

# Хворыя і безабаронныя

**Толькі ў адным са шпіталёў Украіны знаходзіцца каля 40 грамадзянаў Беларусі, якіх Радзіма пакінула ў бядзе...**

За апошнія гады мы наслухаліся шмат прыгожых слоў пра "больш цесную інтэграцыю славянскіх народаў", пра "ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва" ды інш. Сустракаюцца між сабою прэзідэнты, прэм'еры, міністры, падпісваюцца нейкія дамовы, ствараюцца нейкія саюзы Беларусі з Расіяй, Казахстанам... Але за "вялікімі" праблемамі нашыя кіраўнікі забываюць пра праблемы малыя, але не менш важныя. Бо тычацца яны лёсаў канкрэтных людзей. Вось толькі адзін прыклад...

Летась у ліпені грамадзянін Беларусі N (прозьвішча рэдакцыя не называе з этычных меркаваньняў) удзельнічаў у навуковай канферэнцыі ў горадзе Судак, што ў Крыме. Напярэдадні паездкі ў Менску ён зьвяртаўся па кансультацыю да псіхіятра, бо адчуў нейкую нярвовасьць і напружаннасьць, што ўзьнікла ў ягоных адносінах з калегамі. Урач параіў не нервавацца, пазьбягаць стрэсаў. Аднак N у цікавую і заманлівую (лета, поўдзень!) камандзіроўку ўсё ж паехаў.

На другі дзень канферэнцыі ў N абвастрылася захворваньне. Ён зачыніўся ў нумары гатэля разам з непаўналетнім суседам і абвясьціў, што той зьяўляецца ягоным заложнікам. N запатрабаваў, каб у Судак прывезьлі ягоных бацькоў. Гэта было адзінае патрабаваньне. Магчыма, калі б зь ім пагаварыў псіхіятр, то ўдалося б пазьбегнуць трагічных наступстваў. Але ў гатэль на барацьбу з "тэрарыстам" былі выкліканыя байцы атрада сьпецназу, якія абстралялі пакой з аўтамата, а потым захапілі "тэрарыста" і даставілі ў пастарунак. N быў абвінавачаны ў міжнародным тэрарызме. Украінскае заканадаўства прадугледжвае па гэтым артыкуле пазбаўленьне волі на тэрмін да 11 гадоў.

Пасьля затрыманьня сьледчыя заўважылі, што N неадэкватна рэагуе на сітуацыю. Пад час агляду экспертаў было вызначана, што ён хворы на шызафрэнію параноідальнай формы і на момант затрыманьня быў у несьвядомым стане. А таму ня можа быць прыцягнуты да крымінальнай адказнасьці і мае патрэбу ў прымусовым лячэньні ў сьпецыяльнай медыцынскай установе.

Але, нягледзячы на гэта, N перавезьлі ў сімферапальскі СІЗА, дзе ён знаходзіўся пяць месяцаў ў камеры з 25 крымінальнікамі. Ніякай медыцынскай дапамогі ён не атрымліваў.

Сваякі N зьвярнуліся ў Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96" па дапамогу. Прадстаўнік цэнтру паведаміў пра здарэньне ў беларускую амбасаду на Украіне, і папрасіў, каб консульская служба стала на абарону правоў грамадзяніна сваёй краіны.

Дзіўна, аднак і консул, і пасол нічога ня ведалі пра выпадак, з N. Пасьля ўмяшальніцтва амбасадараў N перавялі зь сімферопальскага СІЗА ў Днепрапятроўск у Рэспубліканскі псіхіятрычны шпіталь. Але ж адразу яго туды не зьмясьцілі. Два тыдні ў моцныя маразы ён "жыў" ў таварным вагоне, спаў на саломе, ня меў цёплага адзеньня. І ўсё з-за таго, што своечасова не дайшлі дакументы ў шпіталь.

Намесьнік галоўнага ўрача шпіталя паведаміў, што выпадак з N не адзінкавы. У шпіталі знаходзяцца яшчэ каля 40 нашых суачыньнікаў.

Міністэрства аховы здароўя Украіны неаднаразова зьвярталася да сваіх калегаў у Беларусі з просьбай сумесна вырашыць пытаньне аб перасылцы грамадзянаў Беларусі на радзіму. Але станоўчых адказаў атрымана ня было. У сваю чаргу МУС Беларусі адмаўляецца ажыцьцявіць транспарціроўку хворых людзей, матывуючы гэта тым, што адсутнічае заканадаўчая база. У верасьні 1997 г. лукашэнкаўскі парламент павінен быў разгледзець пытаньне аб рэадмісіі нашых грамадзянаў. Але яго не разгледзелі, пэўна, таму, што яно зьўляецца "другарадным". Ва ўладаў пакуль "не даходзяць рукі", да праблем сваіх шматпакутных суачыньнікаў, якія трапілі ў безвыходнае становішча за межамі краіны. Хворым, безабаронным і бяспраўным ім застаецца сёньня толькі адно — чакаць...

**Л. ЛУНЁВА**

# "Сама прысутнасьць Шчукіна — ёсьць падстава для арышту яго..."

Затрыманьні дэпутата і журналіста Валерыя Шчукіна на вачах мноства людзей для менскага АМАПу, здаецца, ужо сталі чымсьці накшталт абавязковага рытуалу. 10 сакавіка ў Ленінскім райсудзе сталіцы адбылося ўжо другое паседжаньне па апошняй справе гэтага "непакорнага камуніста". В. Шчукін належыць да тых камуністаў, што не прынялі і не прымаюць палітыку Лукашэнкі. Пачатак справе паклалі падзеі каля менскага абласнога суда 24 лютага, дзе В. Шчукіна зацягнулі ў "варанок" сем ці восем амонаўцаў, калі ён браў інтэрв'ю ў непаўналетняга палітычнага вязьня Вадзіма Лабковіча. За некалькі хвілін перад затрыманьнем Шчукін асьмеліўся выказаць абурэньне дзеяньнямі міліцыі, якой загадалі адагнаць людзей ад будынку.

В. Шчукін абвінавачваецца па двух артыкулах адміністратыўнага кодэксу: "удзел у несанкцыянаваным мітынгу" і "непадпарадкаваньне работнікам міліцыі". Пасьля лютаўскага затрыманьня суд быў адкладзены з дзьвух прычынаў: па-першае, абвінавачаны заявіў аб намеры прадставіць сьведкаў інцыдэнту, па-другое, судзьдзі былі ўражаныя лозунгамі "Далоў дыктатуру!" і "Лукашэнку — за краты!", якімі Шчукін "упрыгожыў" пратакол свайго затрыманьня.

На гэты раз у маленькім пакойчыку, дзе праходзіла паседжаньне пад старшынствам судзьдзі Алены Церашковай, дазволілі прысутнічаць прэсе (большасьць журналістаў усё роўна сюды не трапіла). Суд выслухаў чатырох сьведкаў, заяўленых В. Шчукіным: гэта былі стаяўшыя ў момант "хапуну" пабач зь ім журналісты і тыя людзі, што сустракалі палітвязьня Лабковіча. Зь іх словаў суд даведаўся, што затрыманьне "мітынгоўшчыка" выглядала амаль як напад некалькіх маладых мужчынаў на аднаго сталага чалавека. Калі Шчукіна цягнулі да "уазіка", на вул. Леніна нават на нейкі час спыніўся рух аўтамабіляў...

Былі таксама сьведкі — міліцыянты. Амапавец В. Наліўка заявіў, што ён толькі выконваў загад затрымаць Шчукіна, дадзены кіраўніцтвам. Намесьнік начальніка Ленінскага РАУС капітан Г. Міклуш выказаў думку, што "сама прысутнасьць Шчукіна" ужо ёсьць падстава для яго адвозу да пастарунку. Дарэчы, менавіта капітан Міклуш і абвясьціў 24 лютага ў мегафон, што перад ім — менавіта "мітынг". Таму падчас суда разгарэліся спрэчкі, што можна вызначыць як мітынг. Са слоў амонаўскага капітана, мітынгам можна лічыць "любы збор людзей, якія нешта абмяркоўваюць" — нават "ці ёсьць жыцьцё на Марсе".



*"Несанкцынаванае шэсьце" перад будынкам суда.*

Паседжаньне аднак, ня скончылася нейкім рашэньнем судзьдзяў: чарговы акт "шчукінска-міліцэйскага раману" адкладзены на 18 сакавіка, што патлумачана незьяўленьнем аднаго са сьведкаў — міліцыянта. Без адказу пакуль і скарга Шчукіна на дзеяньні міліцыі, пададзеная ім у пракуратуру. "Самы дарагі" камуніст Беларусі мае ўжо 13-ты суд за паўгады, што каштавала яму штрафаў на агульную суму амаль 78,5 мільёнаў рублёў (больш за дзьве тысячы даляраў) і некалькіх зьняволеньняў.

**Яна ЖДАНОВІЧ**

# Няпросты шлях у Еўропу

### *У Менску адкрыта афіцыйная місія АБСЕ*

Пачатак дзейнасьці ў Беларусі групы назіральнікаў АБСЕ амаль супаў па часе з вынясеньнем прысуду Шыдлоўскаму і Лабковічу ды надыходам чарговай вясны. Урачыстая цырымонія адкрыцьця штаб-кватэры кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ прайшла ў Міжнародным адукацыйным цэнтры ў Менску 27 лютага.

Да гэтай падзеі быў прымеркаваны аднадзённы візіт у беларускую сталіцу дзеючага старшыні АБСЕ — міністра замежных спраў Польшчы Браніслава Герэмека. Разам са сп. Герэмекам Менск наведала прадстаўнічая дэлегацыя, у якую ўвайшоў шэраг высокапастаўленых асобаў: генеральны сакратар АБСЕ Жанкарла Арагона, дырэктар Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека Жэрар Штудмак, прадстаўнікі кіраўніцтва АБСЕ мінулага і будучага года з Даніі і Нарвегіі. Аднак сустрэчы дэлегацыі з прэзідэнтам Беларусі так і не адбылося. Кантакты з афіцыйным Менскам абмежаваліся перамовамі кіраўніцтва АБСЕ з міністрам замежных спраў Іванам Антановічам і прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам.



Нават падчас цырымоніі адкрыцьця офісу назіральнай групы за ўсьмешкамі афіцыйных асобаў і дыпламатычнай завуаліраванасьцю заяваў досыць выразна праступала тое, пра што імкнуліся прамаўчаць абодва бакі. Гаворка пра тыя складанасьці, якія на працягу апошніх месяцаў былі зьвязаныя з маючым адбыцца прыездам місіі ў якасьці пастаянна дзеючай на Беларусі міжнароднай структуры. Як вядома, ініцыятыва яе стварэньня зыходзіла з Захаду, што, нягледзячы на дэкляраваньне беларускіх уладаў актыўнага імкненьня ў Еўропу, выклікала іхнюю незадаволенасьць. Буйны скандал разгарэўся сёлета напачатку лютага, вынікам чаго стаў адкладзены візіт Браніслава Герэмека і абвінавачаньне Польшчы ў падрыхтоўцы разам з беларускай апазіцыяй дзяржаўнага перавароту ў Беларусі. У тыя ж дні афіцыйная прэса, падуладная прэзідэнту Лукашэнку, зьмясьціла інтэрв'ю старшыні Беларускага КДБ У. Мацкевіча, які сьцьвярджаў, што польскія сьпецслужбы ўжо некалькі гадоў праводзяць актыўную дзейнасьць супраць усходняй суседкі, падбухторваючы грамадзянаў Беларусі да шпіёнства і здрады.

Пасьля такіх заяваў, члены місіі АБСЕ, якія ўжо прыехалі ў Менск, нейкі час знаходзіліся ў няпэўным становішчы. Напрыклад, на спробу паведаміць назіральнікам пра тое, што адбываецца ля будынку суда ў час працэсу над Шыдлоўскім і Лабковічам, еўрапейцы ўказалі на абмежаванасьць сваіх функцый на той момант ды паўдыпламатычны статус. Ці будзе адкрыта штаб-кватэра афіцыйна, тады яшчэ не было вядома, "пытаньне вырашалася" ледзь не да апошняга дня.

Здаецца, дамовіцца ўсё ж удалося. Выступаючы ў дзень адкрыцьця місіі перад журналістамі, Б. Герэмек і І. Антановіч выказвалі намеры плённага супрацоўніцтва на шляху краіны ў агульнаеўрапейскі дом. Колькі слоў было сказана і аб дэмакратычных каштоўнасьцях гэтага дому. Прадстаўнікі АБСЕ заявілі, што не зьбіраюцца ўмешвацца ва ўнутраныя справы Беларусі, кіраўнік МЗС, падкрэсліўшы, што выконвае волю і праводзіць палітыку Лукашэнкі, указаў, што сам факт адкрыцьця місіі АБСЕ ў Менску ілюструе добразычлівае стаўленьне ўладаў. На думку Антановіча, назіральнікі з Еўропы змогуць на ўласныя вочы пераканацца, што ў краіне ўсё ў парадку з правамі чалавека, што ж тычыцца зьвестак пра існуючых тут палітвязьняў — то, паводле словаў міністра, на Беларусі такіх няма.

Такім чынам, місія назіральнікаў, відавочна, пачынае сваю працу ў складанай сітуацыі. Ёй быццам бы "намякнулі зараней" на магчымыя трактоўкі ўсялякіх сустрэчаў, кантактаў, кансультацыяў з прадстаўнікамі апазіцыйных прэзідэнту колаў і нібыта прапанавалі выгодны рэжыму кампраміс у сваіх ацэнках беларускіх падзеяў і агульнай сітуацыі.

Напрацягу першага тыдня пасьля афіцыйнага адкрыцьця штаб-кватэры ніякай грунтоўнай працы назіральнікі не распачалі. Тым часам Браніслаў Герэмек, распавядаючы заходнім журналістам пра паездку на Беларусь, зазначыў, што з беларускім прэзідэнтам ён і яго калегі з АБСЕ не сустрэліся наўмысна, і прычынай гэтаму — вядомае скептычнае стаўленьне дэмакратычных краінаў сьвету да Лукашэнкі, зь якім ахвотна сустракаюцца адно дыктатарскія лідэры азіяцкіх ды некаторых іншых краінаў (Югаславія, Куба). Гэтая заява амаль супала і з выказваньнямі наконт АБСЕ прэзідэнта Беларусі. Падчас паездкі ў Гародню на сельскагаспадарчую нараду Лукашэнка назваў прысутнасьць у Беларусі назіральнікаў АБСЕ абсурдам, спасылаючыся на тое, што "Беларусь таксама з'яўляецца заснавальнікам гэтай арганізацыі", і ў АБСЕ працуюць "нанятыя намі чыноўнікі". Прэзідэнт выказаў таксама сваю незадаволенасьць аналогіяй, што ўзьнікае з нагоды працы назіральнікаў, паміж Беларусьсю і "гарачымі кропкамі" — у прыватнасьці, Чачэніяй. Гэта зусім лагічна: уладам ня хочацца прызнаваць шматлікія факты парушэньня элементарных правоў чалавека.

**Наш. кар.**

# Архіпелаг Беларусь

*(Пачатак на стар 1)*

ад чатырох да пяці мільёнаў, па любых мерках нямала. Але беларускамоўныя беларусы разьяднаныя, як астраўкі ў моры. Гэта і дало падставы беларускаму філосафу Валянціну Акудовічу метафарычна назваць сапраўдную Беларусь — архіпелагам... І ў гэтым, у разьяднанасьці, нашая слабасьць.

Падобная сітуацыя была і 80 гадоў таму, калі ў Менску была абвешчаная незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. Але гэта ня можа працягвацца бясконца. Мора паступова паглынае гэтыя астраўкі. Архіпелаг зьнікае... Любая ж спроба беларусаў змагацца за свае правы, за права "людзьмі звацца", душыцца ўладамі. Раней царскімі, потым бальшавіцка-камуністычнымі, цяпер вось лукашэнкаўскай "вертыкальлю".

І таму ня дзіва, што сёньня ўсё беларускае — ёсьць апазіцыйнае ўладам. І таму 25 сакавіка і сёлета будзе адзначацца не як дзяржаўнае сьвята, а як сьвята тых, хто найвялікшымі каштоўнасьцямі лічыць Незалежнасьць і Волю.

**Андрэй НАЛІВА**

*Надзея Дударава — болей не адвакат. Гэта цяжка сабе ўявіць... Тым не меньш гэта ўжо двойчы так. Афіцыйна і з ласкі беларускага Мінюста.*

*У жніўні мінулага года асабістым распараджэньнем міністра юстыцыі ёй было забаронена ўдзельнічаць у крымінальных працэсах. Пасьля восеньскага суда над пяцьцю ўдзельнікамі "Менскай вясны — 97" да Дударавай пайшлі лісты зь Мінюста з патрабаваньнем зьявіціца туды (навошта — не тлумачылася). Не пасьпеў скончыцца нядаўні працэс па справе двух маладафронтаўцаў, як да іх грамадскага абаронцы Н. Дударавай з канторы правасудзьдзя прыляцела тэрміновая тэлеграма... Удзельнічаць у паседжаньне кваліфікацыйнай камісіі ("дыскваліфіцыйнай"?) праваабаронца не пажадала: фактычна гэта значыла б для незалежнага адваката прызнаць падпарадкаваньне рэжыму.*

*На маё пытаньне па тэлефоне, навошта Дудараву выклікаюць у Мінюст, тамтэйшая чыноўніца Барэйша В. А. груба кінула слухаўку. Самой жа Надзеі Барысаўне коратка паведаміла, што яна пазбаўленая адвакацкай ліцэнзіі за парушэньне адвакацкай этыкі. Пры гэтым спадарыня Барэйша не патлумачыла, у чым канкрэтна заключалася тое парушэньне, спаслаўшыся на недахоп часу для размовы. Невядома таксама, якім днём цягам апошніх сямі месяцаў загад аб "ліквідацыі статусу абаронцы" датаваны... Між тым уся "віна" яе — у незалежнасьці ад дзяржаўнай феміды ды канстатацыі залежнасьці нашых судоў ад прэзідэнта Лукашэнкі. Падобна, што менавіта пасьля суда над Аляксеем Шыдлоўскім і Вадзімам Лабковічам іх незалежнаму абаронцу дзяржава спрабуе яшчэ раз нагадаць аб сваім стаўленьні да фактаў незаангажаванасьці і прынцыповасьці.*

*Нашая гутарка з Надзеяй Дударавай пачалася якраз са згадкі пра нядаўні судовы працэс над палітычнымі вязьнямі...*

# Правасудзьдзе і дыктатура — рэчы несумяшчальныя

**— Надзея Барысаўна, як вы можаце пракаментаваць вынікі працэсу Шыдлоўскага-Лабковіча?**

— Вынесены ім прысуд — проста абсурдны! Іншыя суды толькі па значна больш сур'ёзных справах выносяць такія тэрміны пазбаўленьня волі. Прысуд грунтуецца на паказаньнях трох сьведкаў. Фактычна ж (пра што даслоўна заявіў сам суд) паказаньні двух зь іх базуюцца на словах трэцяга — сьведкі Ілюшына. Як запісана ў тэксце прысуду, Ілюшын заявіў літаральна наступнае: у ноч 3 жніўня 1997 года, праяз джаючы на сваім аўтамабілі разам са сьведкам Шэндзікам паўз будынак Стаўбцоўкай раённай бібліятэкі, і асьвятліўшы фасад будынку фарамі, ён убачыў, як некалькі чалавек нешта — падкрэсліваю: нешта! — пісалі на сьцяне фарбамі з балончыкаў. Сярод гэтых асобаў сьведка пазнаў Шыдлоўскага, які рабіў надпіс на фасадзе бібліятэкі. Усё. Астатнія паказаньні грунтуюцца на гэтым расповядзе... Калі Ілюшын бачыў, што пісалі "нешта", але ня бачыў, што — як суд можа ў прысудзе весьці размову пра канкрэтныя надпісы, спасылаючыся на паказаньні Ілюшына?

Суд напісаў проста абсурдную рэч: спаслаўся на паказаньні сьведкі Шэндзіка, які кажа ўсё са словаў Ілюшына — і адначасна ўказвае, што Шэндзік у час руху аўтамабіля каля будынку бібліятэкі нікога ня бачыў. Гэта тлумачыцца "суб'ектыўным успрыняцьцем" Шэндзіка і яго кепскім зрокам. Такім чынам, сьведка ня мог пацьвердзіць некаторыя падзеі, але яны пакладзеныя ў аснову абвінаваўчага прысуду. Як можна назваць такі прысуд? Толькі незаконным?

Пра гонар і годнасьць пры вынясеньні гэткага судовага вердыкту гаварыць не даводзіцца ўвогуле. Судзьдзя павінен выносіць прысуд, кіруючыся сваім унутраным перакананьнем, гонарам, сумленьнем, годнасьцю грамадзяніна, зважаючы на сітуацыю ў грамадстве. Таму на гэты конт у мяне можа быць толькі два меркаваньні: альбо людзі, што вынесьлі прысуд, кагосьці баяцца, альбо яны "ведалі" яго загадзя. Я не хачу верыць у другое. Таму, што судзьдзя з даволі вялікім жыцьцёвым вопытам не разумець, які вердыкт ён вынес, проста ня можа.

**— А што вы скажаце пра такі доказ, прадстаўлены сьледствам, як фотаздымкі надпісаў?**

— У прысудзе не сказана, ці былі сьведкі напісаньня Шыдлоўскім і Лабковічам менавіта гэтых надпісаў. У тым ліку і прыпісаных хлопцам нецэнзурных. Самі падсудныя іх катэгарычна адмаўлялі, а судзьдзя так і не прывёў ніводнага доказу. Указаны, адно, зьмест надпісаў і мейсцы, дзе іх сфатаграфавалі. На такой падставе выносіць прысуд нельга: гэта беззаконьне. Так можна асудзіць бяз доказаў любога чалавека. Гэта недапушчальна! Пра якое правасудзьдзе тады можна гаварыць?

**— Вось што, пэўна, адразу павінна было насьцярожыць: справа ў Стоўбцах была заведзеная амаль праз тры тыдні, цягам якіх балончыкі з фарбай — менавіта тыя балончыкі! — трымаў у сябе дома будучы сьведка Ілюшын...**

— Ды увогуле, ня трэба мець нейкі выключны розум, каб зразумець, якімі надпісамі сёньня расьпісаная ўся Беларусь! Калі едзеш па Менску, па любой аўтатрасе, праз розныя гарады — бачыш сьвежа зафарбаваныя сьцены. На іх былі надпісы, адрасаваныя прэзідэнту і яго адміністрацыі. Таму што людзі нязгодныя з іхняй палітыкай, з тым узроўнем жыцьця, які сёньня ёсьць у Рэспубліцы Беларусь. Яны ненавідзяць існуючы рэжым. Такія надпісы можна сфатаграфаваць ў любых грамадскіх месцах, нават у прыбіральнях. Сфатаграфавалі — але дзе гарантыя, што самі й не напісалі? Што гэта ня зроблена наўмысна — каб стварыць прэцэдэнт і на прыкладзе гэтых хлопцаў не паказаць усім астатнім, што іх можа чакаць, калі асьмеляцца рабіць нешта падобнае? Калі меў месца сацыяльны заказ, то ён выкананы на ўсе сто працэнтаў.



Надзея ДУДАРАВА

**— Памятаю, як былі ўражаныя міжнародныя назіральнікі тэрмінам, які Шыдлоўскі і Лабковіч адседзелі пад сьледствам. Цікава, што прысутныя амонаўцы пад час суда пераконвалі мяне: маўляў, за "графіці" гэтак жа караюць і на Захадзе. У нас неадукаваныя ахоўнікі парадку, ці што?**

— Шэсць месяцаў зьняволеньня хлопцаў спатрэбіліся, каб дапытаць трох сьведкаў, двое зь якіх зусім "пустыя" — нічога канкрэтна не пацьвердзілі. Гэта грубейшае парушэньне! І калі яно стала відавочным, то прадстаўнікі арганізацыі "Humen Rights Watch", англійскай і амерыканскай амбасады (яны прысутнічалі на пра-

цэсе) былі шакаваны. Гэтая справа павінна была разглядацца сама болей за 10-15 дзён. У такой сітуацыі работнікамі міліцыі, якія праводзілі папярэдняе сьледства, парушаныя нормы міжнароднага права, падпісаныя Беларусьсю. Згодна з імі, падобныя справы павінныя разглядацца ў найкарацейшы тэрмін.

Мной было прадстаўлена хадайніцтва аб вынясеньні судом асобнага заключэньня на адрас органаў папярэдняга расьсьледаваньня. Пра тое, што хлопцаў трымалі ў мейсцах пазбаўленьня волі неапраўдана доўга. Але суд на гэтае хадайніцтва нават не прарэагаваў. Зрабілі выгляд, быццам яго ўвогуле "не існуе ў прыродзе"!

Такая ж рэакцыя была і на спробу ўказаць суду на аналагічныя дзеяньні супрацоўнікаў прэзідэнцкай адміністрацыі, у прыватнасьці І. Ціцянкова, які сапраўды парваў, зьняважыў нацыянальны сьцяг. Самае цікавае, што тады пракурор РБ адказаў: "Мела месца утылізацыя палотнішча". Гэта — сапраўднае блюзьнерства! Як можна такім чынам "утылізоўваць" сьцяг на вачах людзей ды яшчэ і дэманстраваць гэта па тэлебачаньні?! Як можна ўслаўляць дзеяньні Гітлера (як рабіў прэзідэнт) і ня несьці за гэта адказнасьці?

**— Днямі ў Гародні прэзідэнт прылюдна заступіўся за помнікі Леніну і Дзяржынскаму і назваў асуджэньне маладых патрыётаў справядлівым. "Сёньня краіна ў колцы ворагаў, як у 41-м", "Народ прасіў мяне кіраваць ім па-сталінску"... Я цытую словы таго ж аўтарства, чутыя на свае вушы і сказаныя гэтак жа прылюдна, як і пра Леніна ў Гародні. Справа ў тым, што падчас суда Шыдлоўскаму і Лабковічу ў віну ставілася і "расколваньне грамадства"... Дзе логіка?!**

— Як у ходзе сьледства, так і падчас судовых паседжаньняў задавалася пытаньне: зь якою мэтай хлопцы правялі гэтую акцыю. І Лабковіч, і Шыдлоўскі адказвалі, што такім чынам выказалі пратэст супраць палітыкі прэзідэнта краіны. І суд гэта ўказаў у прысудзе. Але ён зусім не абмяркаваў гэты матыў. Бо такі матыў не зьяўляецца хуліганскім! Такім чынам, справа была відавочна зшыта белымі ніткамі...

У рэшце рэшт, прысуд выносіцца ня толькі судом — гэта робіць яшчэ і грамадства. Рэакцыю грамадства мы бачым, у тым ліку і па расійскіх каналах тэлебачаньня. І яна супрацьлеглая судоваму прысуду. Яго ніхто не падтрымаў! Нават беларускае тэлебачаньне дагэтуль ня выступіла ні з якою заявай адносна прысуду... Я магу гэта растлумачыць боязьзю яшчэ больш яскрава ўбачыць, якую буру абурэньня выклікаў гэты прысуд. Згадайце некалькі тысячаў подпісаў у падтрымку вязьняў, меркаваньні міжнародных арганізацый — суд зрабіў выгляд, што і гэтага не было.

**— Суд, такім чынам, супрацьпаставіў сябе грамадству?**

— Так. Ужо тое, што вучні класа Вадзіма Лабковіча некалькі дзён стаялі каля абласнога суда, у залу якога іх не пусьцілі, яскрава гаворыць пра стаўленьне старшакласьнікаў да ўчынку свайго таварыша.

**— А які розгалас мелі вынікі суда ў сьвеце?**

— У Менск прыяжджаў журналіст з ЗША, з газеты "New York Times". На ягоныя пытаньні мы адказвалі разам з Вадзімам Лабковічам і ягонай маці. Я ведаю, што артыкул пра гэтую справу апублікавала і газета "Вашынгтон Пост". Цікавасьць праявілі і іншыя вядомыя ў сьвеце СМІ. Я маю артыкул, які ўбачыў сьвет у парыжскай "Le monde". Вось якія ў ім выказаныя меркаваньні журналіста: "Беларусь жыве пад кулаком Аляксандра Лукашэнкі, які атрымаў уладу на рэферэндуме". Закранаецца і лёс Андрэя Клімава — адзначана, што ў Беларусі вядзецца пераслед прадпрымальнікаў, якія ствараюць шмат працоўных месцаў і магчымасьць для людзей больш зарабляць...

**— ...І маюць апазіцыйныя погляды.**

— Так, і Андрэй Клімаў, і Аляксандр Пупейка. Жаданьне рэжыма іх арыштаваць цалкам зразумелае... Вось яшчэ з газеты "Le monde": на нядаўнім адкрыцьці ў Менску місіі АБСЕ міністр замежных спраў Беларусі заявіў, што ў краіне няма палітзьняволеных... Я магу засьведчыць, што гэта не адпавядае рэальнасьці, таму што сама вяду справы гэтых зьняволеных.

**— Як вы ацэньваеце колькасьць людзей, што зьведалі на сабе палітрэпрэсіі ў Беларусі?**

— Іх каля дзьвюх з паловаю тысячаў. Гэтыя людзі пакараныя за іншадумства, за тое, што рознымі спосабамі адкрыта выказвалі свае погляды. Няхай нават праз надпісы на сьценах — але іншага шляху ў іх няма. Як толькі яны рэалізуюць свае права выбару, права шэсьцяў, мітынгаў, свабоды слова — іх тут жа караюць пад выглядам учыненьня крымінальнага злачынства ці адміністратыўнага правапарушэньня. Хоць гэта — барацьба за права быць вольным чалавекам. Пакараньні — гэта і пазбаўленьне волі ад сутак да некалькіх гадоў, неймаверныя штрафы, выключэньне з ВНУ, звальненьне з працы.

**— Адвакаты Лабковіча і Шыдлоўскага зьвярнуліся ў Вярхоўны суд з касацыйнай скаргай. Што далей?**

— Улічваючы досьвед папярэдніх палітычных працэсаў, я сумняваюся, што рашэньне суда будзе адмененае. Магчыма, знойдзецца, як гэта ў справе Лыско, Кійкі, Бондарава і інш, адзін з членаў калегіі, што выкажа асобнае меркаваньне. (Па той справе, дарэчы, чакаем зараз адказу старшыні ВС В. Сукалы). Каб прыняць правільнае рашэньне ў такой справе, трэба мець, прынамсі, грамадзянскую сьмеласьць... На многіх прыкладах бачна: ні суды, ні пракуратура, ні органы міліцыі, ні адвакатура сёньня ня маюць магчымасьці гаварыць праўду. Страх вісіць над людзьмі гэтых прафесіяў дамоклавым мячом і прымушае іх рабіць учынкі, зь якімі ў душы яны ня згодныя. Інакш магчыма звальненьне з працы, пазбаўленьне іхніх сем'яў сродкаў для існаваньня. Скажу болей: наўрад ці гэтых людзей звольняць "па ўласным жаданьні", калі яны выкажуць нязгоду з палітыкай, і наўрад ці возьмуць іх потым на іншую працу па сьпецыяльнасьці... Тыя, хто вырашае сёньня лёсы іншых людзей, занадта залежаць ад уладных структураў, каб судзіць па Закону, а не па указаньнях зьверху...

**Гутарыла**
**Таццяна СЬНІТКА**

# Сьледства скончана. Будзе суд.

***23 сакавіка адбудзецца суд над актывістам "Маладога Фронту" Вадзімам Кабанчуком, які знаходзіцца за кратамі ўжо амаль пяць месяцаў.***

Вадзім абвінавачваецца ў аказаньні актыўнага супраціўленьня супрацоўнікам міліцыі падчас акцый, што праводзіла апазіцыя леташняй вясною. Яму інкрымінуюцца артыкулы 186 і 187 КК Рэспублікі Беларусь (актыўны ўдзел у несанкцыянаваных мерапрыемствах), што пагражае пазбаўленьнем волі да 5 гадоў. Пасьля жорсткага прысуду вынесенага нядаўна Аляксею Шыдлоўскаму і Вадзіму Лабковічу, мала надзей, Вадзім Кабанчук будзе апраўданы.

Адвакат Вадзіма Кабанчука Таццяна Станкевіч (дарэчы, яна абараняла А. Шыдлоўскага) некалькі разоў падавала хадайніцтвы ў пракуратуру аб зьмяненьні меры стрыманьня палітвязьню на падпіску аб нявыезьдзе, улічваючы тое, што ў сьледчым ізалятары на "Валадарцы" рэзка пагоршылася ягонае здароўе, абвастрыліся хваробы сэрца і нырак. Аднак сьледчы пракуратуры Маскоўскага раёну г. Менска Юрый Шпак, які вядзе гэтую справу, лічыць, Вадзіма нельга выпускаць з турмы, бо ён можа зьбегчы ад пакараньня...

Як бачым, амаль пяць месяцаў спатрэбілася сьледчым, каб "ствараць" абвінаваўчае заключэньне і "падвесьці " пад пэўны артыкул дзеяньні леташняга выпускніка Беларускай політэхнічнай акадэміі 23-гадовага Вадзіма Кабанчука. Расправы над актыўнымі ўдзельнікамі палітычных акцый апазіцыі працягваюцца.

# На дапамогу студэнтам

Летась у верасьні ў Канадзе быў створаны Фонд памяці беларускай паэткі-эмігранткі Натальлі Арсеньневай. Заснавальнікам яго стаў Выканаўчы камітэт Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады. Фонд мае намер ажыцьцяўляць дапамогу студэнтам, якіх беларускія ўлады выключаюць з Універсітэтаў за ўдзел у дэманстрацыях, мітынгах, шэсьцях, за іншадумства, за беларускасьць.

Ва управу Фонду ўвайшлі Раіса Жук-Грышкевіч, Івонка Сурвіла і Галіна Русак. На рахунак Фонду памяці Натальлі Арсеньневай паступілі першыя ўнёскі ў амерыканскіх ды канадскіх далярах ад беларусаў Паўночнай Амерыкі, Аўстраліі, Велікабрытаніі, Расіі...

**Ул. інф.**

# Няволя ў Дзень Волі

***Летась, падчас сьвяткаваньня ўгодкаў БНР, "беспарадкі" справакавалі міліцыянты і сьпецназаўцы, а адказнасьць за гэта панесьлі пяцёра простых беларускіх грамадзянаў...***

## Перадгісторыя

Падзеі, да якіх мы вяртаемся, адбыліся амаль год таму, падчас сьвяткаваньня апазіцыяй чарговай гадавіны ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. 23 сакавіка 1997 года ў Менску па прасьпекце Скарыны ад пляцу Незалежнасьці да пляцу Якуба Коласа прайшло шэсьце, а на пляцы Якуба Коласа адбыўся мітынг. Шэсьце ўлады не дазволілі, санкцыянаваны быў толькі мітынг. Аднак людзі сабраліся каля пляцу Незалежнасьці і па тратурах, пераходзячы скрыжаваньні на зялёнае сьвятло светлафораў (дарэчы гэткія дысцыплінаваныя паводзіны менскай апазіцыі пад час сваіх мерапрыемстваў і па-сёньня зьдзіўляюць замежных, у тым ліку і расейскіх, назіральнікаў), пайшлі ў бок пляцу Якуба Коласа. Ад пачатку было заўважна, што міліцыянтаў і сьпецназаўцаў у гэты дзень сабрана ў цэнтры Менску вельмі шмат і паводзяць яны сябе дужа агрэсіўна.

Першыя нязначныя сутычкі паміж удзельнікамі шэсьця і міліцыянтамі адбыліся ўжо каля паштамта, каля падземнага пераходу да пляцу Незалежнасьці. Але напачатку ўсё абыйшлося і людзі накіраваліся, падкрэсьліваем, па тратуарах, ня перашкаджаючы руху гарадскога транспарту, у бок пляцу Якуба Коласа. Па недакладных падліках, удзельнікаў шэсьця сабралася ад трох да пяці тысячаў. Міліцыянты з дапамогаю мегафонаў абвяшчалі, што шэсьце незаконнае, несанкцыянаванае і прасілі людзей разысьціся. Слухаючы іх "вяшчаньне" людзі спакойна і дысцыплінавана ішлі ў бок пляцу, дзе павінен быў адбыцца мітынг. Натуральна, над іх галовамі ўзьвіліся бел-чырвона-белыя сьцягі і лозунгі ў гонар сьвята.

Адразу варта адзначыць, што гэта было адно зь першых мерапрыемстваў апазіцыі пасьля падпісаньня прэзідэнтам, прызнанага потым незалежнымі экспертамі антыканстытуцыйным, сумнавядомага "Дэкрэта №5". І, паколькі ў міліцыянтаў і сьпецназаўцаў зьявіліся "законныя" правы хапаць людзей на вуліцы, то трэба было іх апрабаваць. Тым болей, што нібыта, падставы дзеля гэтага былі: рух людзей убок пляцу Якуба Коласа можна было кваліфікаваць, паводле дэкрэта, як несанкцыянаванае шэсьце...

Такім чынам, людзі ішлі па тратуарах, якія, дзякаваць Богу, у Менску ўздоўж прасьпекта шырокія, і ніякіх перашкодаў руху іншых пешаходаў і транспарту не стваралі. Міліцыянты выстраіліся па прасьпекце паўз тратуар і на праезджую частку нікога не прапускалі. Машынаў між тым на прасьпекце было няшмат. Можна сказаць нават іх зусім не было, пэўна, міліцыянты рух па прасьпекце ўсё ж перакрылі. Езьдзілі адно аўтобусы, на якіх стаялі відэаапаратары і здымалі рух калонаў па тратуарах, ды міліцэйскія аўтобусы і машыны. Напачатку, праўда, прайшло колькі тралейбусаў.

Усё магло б так і скончыцца ціха і мірна, калі б... Калі б раптам міліцыянты і сьпецназаўцы не пачалі кідацца да калонаў, выхопліваць зь іх удзельнікаў шэсьця, і цягнуць іх да аўтобусаў і машынаў з закратаванымі і звычайнымі вокнамі. Натуральна, дэманстранты пачалі бараніць сваіх сяброў і проста тых, хто аказаўся побач, вырываць іх з рук міліцыянтаў. Туды, дзе ўзьнікалі сутычкі, справакаваныя міліцыянтамі, сьцякаліся людзі, там чуліся крыкі "Ганьба!", рух калонаў перапыняўся, узьнікала мітусьня, штурханіна... Міліцыянты ўдарна "працавалі" дубінкамі", не зважаючы ні на жанчынаў, ні на старых. Сьпецвідэаапаратары ўсё фіксавалі на стужку. Асабліва мясьціны, дзе ўзьнікаў стыхійны супраціў дзеяньням "ахоўнікаў парадку".

Удзельнікі шэсьця не былі гатовыя да такіх дзеяньняў міліцыі, але хутка яны зарыентаваліся, зарганізаваліся і каб хоць неяк супрацьстаяць наскокам міліцыянтаў і выхопліваньням дэманстрантаў, пачалі выстройвацца ў шэрагі і трымацца за рукі.. На Кастрычніцкім пляцы міліцыянты стаялі ўжо з двух бакоў тратуараў і шэсьце працягвалася далей па гэткім калідоры зь людзей ў шэрай камуфляжнай форме. Нават, калі б нехта і захацеў выйсьці на праезджую частку, зрабіць гэта ня змог бы. Але наскокі сьпецназаўцаў на колоны дэманстрантаў працягваліся і па дарозе да пляцу Якуба Коласа адбылося яшчэ некалькі сутычак удзельнікаў шэсьця зь імі. Прычым удзельнікі шэсьця выключна баранілі саміх сябе, альбо бліжэйшых сяброў ад захопу міліцыянтамі. Сутычкі былі ля пляцу Перамогі, ля будынку рэдакцыі "Вячэрняга Мінску" і асабліва буйная на самым выхадзе да пляцу Якуба Коласа каля кавярні "На ростанях" (відаць, "план захопаў" міліцыянты не выконвалі...). Арышты ў гэты дзень працягваліся і пасьля мітынгу, у дварох, на прыпынках, у падземных пераходах... Большасьць арыштаваных 23 сакавіка 1997 года атрымалі грашовыя штрафы, альбо пазбаўленьне волі на трое і больш сутак. Аднак былі пасьля падзей 23 сакавіка 1997 года і іншыя арышты, і іншыя прысуды.

## Гісторыя

Відэаапаратары ад міліцыі падчас шэсьця працавалі не дарма. Адзьнятыя імі матэрыялы сталі падставай для арышту, а потым і суда над пяцьцю удзельнікамі шэсьця: Рыгорам Кійкам, Уладзімерам Лыско, Аляксандрам Бондаравым, Аляксеем Ковалем і Анатолем Сарокіным. Ім былі прад'яўленыя абвінавачваньні па артыкулах $186^3$ і $187^1$ ч.2 КК Рэспублікі Беларусь, або за "актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, груба парушаючых грамадскі парадак, сумешчаных з непадпарадкаваньнем законным патрабаваньням прадстаўнікоў улады, выклікаўшых парушэньне работы транспарту".

Паколькі ўсе пяцёра ішлі па адной "групавой" справе з аднолькавымі абвінавачваньнямі і дзеяньні міліцыі адносна іх пасьля мітынгу былі прыблізна падобнымі, раскажам пра тое як разьвіваліся падзеі далей на прыкладзе мастака-ужыткоўца Рыгора Кійкі. 23 сакавіка ён прыняў удзел у шэсьці і сутычцы міліцыянтаў з дэманстрантамі каля кавярні "На ростанях". Пра тое, што было далей Р. Кійка распавёў прадстаўніку Праваабарончага Цэнтра "Вясна-96":

— *Пасьля мітынгу мяне затрымалі людзі ў цывільным у адным з двароў каля пляцу Якуба Коласа. Яны зьбілі мяне гумавымі палкамі і амаль без прытомнасьці даставілі ў Кастрычніцкі РАУС. Там мяне пратрымалі 8 гадзінаў, склалі пратакол і вы-*



*пусьцілі з умовай, што заўтра я прыйду да іх з раніцы. 24 сакавіка ў Кастрычніцкім судзе мне быў прысуджаны штраф у 650 000 рублёў за ўдзел ў несанкцыянаваным шэсьці. Прычым, сьведкамі на судзе былі міліцыянты, якія мяне зьбівалі — Павел Ганчароў і Сяргей Мяльнічэнка. На судзе яны не адмаўлялі, што пры затрыманьні ўжывалі дубінкі.*

*Празь некалькі дзён, 1 красавіка, каля дома, дзе я жыву, мяне схапілі чацьвёра невядомыхі, зацягнулі ў чырвоныя "жыгулі" і адвезьлі ў аддзел па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю. Там старэйшы лейтэнант Д. Данільчык сказаў, што супраць мяне ўзбуджаная крымінальная справа. Мяне адвезьлі ў сьпецразьмеркавальнік на трое сутак, а потым перавялі ў СІЗА на "Валадарку".*

*Пратрымалі мяне ў СІЗА тры месяцы. Увесь гэты час нібыта ішло сьледства. Умовы ўтрыманьня ў СІЗА жахлівыя. У камеры плошчай 20 кв. м. знаходзілася 22 чалавекі. На ўсіх было 10 ложкаў, на якіх даводзілася спаць па чарзе. У камеры сыра і душна, людзі варацца там і гніюць жыўцом — тэмпература пастаянна 25-30 градусаў. Камера не праветрываецца. Медыцынскай дапамогі не было ніякой. на маіх вачах памёр падсьледны Ігар Рапаровіч, якога арыштавалі за нявыплату аліментаў. "Зону" ў СІЗА пічаць раем і мараць хутчэй туды патрапіць.*

*Праз тры месяцы мне прад'явілі абвінавачваньне ў тым, што я каля кавярні "На ростанях" накінуўся на супрацоўніка міліцыі і дзяржаньнем сьцяга нанёс яму пяць удараў... Гэта ня так, бо я бліжэй чым 2-3 метры да міліцыянтаў не падыходзіў, а сьцяг падчас сутычкі сапраўды падняў з асфальту (яго нехта выпусьціў з рук) і толькі размахваў ім. Пасьля прад'яўпеньня абві-навачваньня мяне адпусьцілі да суда пад падпіску аб нявыезьдзе...*

У крымінальнай справе, у прыватнасьці у абвінаваўчым заключэньні, "злачынства" Р. Кійкі выглядае так (цытуем): " Зьяўляючыся актыўным удзельнікам несанкцыянаванага шэсьця, дзейнічаючы ўзгоднена і сумесна зь іншымі яго ўдзельнікамі, у ліку якіх знаходзіліся Лыско У. М., Бондараў А. Л., Коваль А. А., Сарокін А. Г. і іншыя нявызначаныя асобы, не падпарадкоўваўся законным патрабаваньням аб спыненьні несанкцыянаванага шэсьця, якія прад'яўляліся супрацоўнікамі міліцыі і ваеннаслужачымі ўнутраных войскаў, што выконвалі ўскладзеныя на іх абавязкі па ахове грамадскага парадку, працягваў рух у групе дэманстрантаў, аказваў супраціўленьне, сумешчанае з гвалтам, супрацоўнікам міліцыі, паводзіў сябе агрэсіўна, крычаў, абражаў супрацоўнікаў міліцыі, размахваў флагштокам, у групе маніфестантаў выходзіў на праезджую частку праспекта Ф. Скарыны і прылеглых вуліц, перакрываючы рух грамадскага транспарту... у час інцыдэнту, які ўзьнік паміж супрацоўнікамі міліцыі і дэманстрантамі *пры затрыманьні актыўных удзельнікаў шэсьця*, група маніфестантаў, у складзе якой знаходзіўся ён, накінулася на супрацоўнікаў міліцы, пры гэтым ён нанёс ня менш за 5 удараў драўляным дрэўкам ад сьцяга па галаве і іншых частках цела супрацоўніку АМАПа ГУУС Мінгарвыканкама Бухаўцу М. А., які перапыняў супрацьпраўныя дзеяньні па парушэньню грамадскага парадку, чым прычыніў пацярпеламу пабоі..."



Па-рознаму праходзіла "сьледства" ў астатніх чатырох абвінавачаных разам з Рыгорам Кійкам у "групавым непадпарадкаваньні" удзельнікаў шэсьця і мітынгу. Аляксей Коваль і Аляксандр Бондараў таксама правялі па два месяцы ў сьледчым ізалятары, у тых жа ўмовах, што і Р. Кійка. Некалькі разоў міліцыянты спрабавалі арыштаваць Анатоля Сарокіна, але ён шчасьліва пазьбягаў гэтага: то ён быў у камандзіроўцы, то хварэў і ляжаў у бальніцы. У кватэрах Р. Кійкі і А. Бондарава былі праведзеныя вобыскі, аднак у Р. Кійкі нічога не было знойдзена, а ў А. Бондарава былі канфіскаваны ў якасьці рэчавых доказаў куртка і тры (!) спартыўныя шапачкі тыпу "пеўнік" (менавіта ў такой шапачцы ён нібыта быў на шэсьці, як засьведчыла відэастужка). Дарэчы, відэазапіс тых падзей, на якім былі апазнаны абвінавачаныя, і стаў асноўным абвінаваўчым дакументам супраць іх. Сьведкамі сталі таксама "пацярпелыя" міліцыянты і амапаўцы: М. А. Бухавец, В. Р. Прыходзька, М. І. Карпека, У. У. Касьпяровіч, А. М. Лясюкоў, Ю. Ю. Штэнь і іншыя.

Усім пяці ўдзельнікам шэсьця быў інкрымінаваны артыкул $187^1$ ч. 2 КК Рэспублікі Беларусь. Усе яны віны сваёй не прызналі. Усе сьцьвярджалі, што ў "беспарадках", што адбыліся ў той дзень вінаватыя міліцыянты, якія сваімі дзеньнямі правакавалі дэманстрантаў, прымушалі іх абараняцца. Цікавым нам падаецца сьведчаньне Анатоля Сарокіна, які прызнаўся:

*— Непадалёку ад скрыжаваньня праспекта Ф. Скарыны і вуліцы Казлова да тратуару, па якім ішлі дэманстранты прыпаркаваўся "уазік". Зь яго выскачыла некалькі сьпецназаўцаў у касках. Яны кінуліся да калоны дэманстрантаў і выхапілі зь яе некалькі выпадковых чалавек. Людзі спачатку скандавалі "Ганьба! Ганьба!", а потым кінуліся да "уазіка".* Прызнаюся, што ў гэтай сітуацыі я паводзіў сябе надта сьціпла, нават баязьліва: стаяў збоку і назіраў за тым, што адбываецца. *Рэч у тым, што я ўжо трапляў у пастарунак, а потым і ў сьпецразьмеркавальнік 30 траўня 1996 г. і 14 лютага 1997 года. І мне зусім не хацелася патрапіць туды яшчэ раз... Аднак, пазьней адзін зь міліцыянтаў "апазнаў" мяне, сказаўшы, што нібыта я хапаў яго за каску падчас таго самага затрыманьня людзей ва "уазік". І супраць мяне была ўзбуджаная крымінальная справа...*

Такім чынам шэсьце і мітынг, прысьвечаныя 79-м угодкам БНР для пяці грамадзянаў Беларусі скончыліся ўзбуджэньнем крымінальнай справы. Несумненна, з тысячаў тых, хто ўдзельнічаў у гэтых мерапрыемствах апазіцыі, іх выбралі дзеля паказальнага працэсу, дзеля запалохваньня іншых. Сьледства цягнулася амаль паўгода. Відавочна, што сабраныя "доказы" і "правапарушэньні" на гучную справу не цягнулі. Але і пакінуць беспакаранымі дэманстрантаў, якіх па некалькі месяцаў пратрымалі ў сьледчых ізалятарах, як выяўляецца ні за што, улады не адважыліся. І 18 верасьня 1997 года сьледчы па важнейшых (!) справах пракуратуры горада Менску, юрыст 1 класу В. А. Фешчанка перадаў справу ў суд.

## Пасьляслоўе

14 лістапада 1997 года ў Менскім гарадскім судзе адбыліся слуханьні па справе. Прысуд быў жорсткім і, у каторы раз даводзіцца сьцьвярджаць, неадэкватным. Рыгору Кійку і Уладзімеру Лыско было прысуджана па два гады папраўчых работ на будоўлях народнай гаспадаркі, Аляксею Ковалю Аляксандру Бондараву і Анатолю Сарокіну — па два гады папраўчых работ па асноўным месцы працы з вылікам 20 працэнтаў заробку.

Прайшло чатыры месяцы з дня вынясеньня прысуду. Рыгор Кійка ўжо адбывае пакараньне ў Барысаўскім раёне. Працуе на "хіміі" ў Гомелі і Уладзімер Лыско. У Аляксандра Бондарава і Анатоля Сарокіна вылічаюць грошы з заробку, а Аляксей Коваль быў вымушаны пакінуць Беларусь і папрасіць палітычнага прытулку ў Чэхіі...

...Набліжаецца дзень 25 сакавіка. Юбілейны: сёлета спаўняецца 80 гадоў з дня ўтварэньня БНР. Апазіцыя рыхтуецца адзначыць Дзень Волі годна...

**Н. К.**

*На здымках: менскі сьпецназ на "працы"...*

# У спратах "Валадаркі"

## Этап

Людзі кажуць, што чалавек можа прызвычаіцца да ўсяго. І гэта праўда, нават тады, калі ты знаходзішся ў шэрых, вільготных сценах "асуждзёнкі". Паступова тут перастаеш хвалявацца, спакойна рэагуеш на зьвярыныя позіркі мянтоў і іх бессэнсоўныя рэплікі. Нават страўнік праз некаторы час пачынае ўспрымаць нісчымную, брыдкую на выгляд ежу. Але, між тым, кожны, падсьвядома, чакае этапу. І тут няма розьніцы, які ў цябе тэрмін: год калоніі пасяленьня альбо дзесяць гадоў строгага рэжыму. І хаця турэмны этап — працэдура непрыемная, але кожнага цягне хоць краем вока пабачыць сонца, сустрэць новых людзей.

У камеры на сцяне ў нас вісеў гараскоп, і штодня кожны зазіраў у яго з надзеяй, што нябесныя сьвяцілы пакажуць дзень, калі ты пакінеш гэтыя спраты. Таму што зь іншых крыніцаў даведацца пра гэта немагчыма.

Да этапу рыхтуюцца загадзя. Таму, што звычайна гэта адбываецца нечакана, і на зборы даюць пару хвілінаў. Кожны складае сабе "кешар" (торбу з пакінутымі для гэтай мэты рэчамі), запісвае адрасы і тэлефоны сваіх знаёмых, адкладвае чыстую вопратку (калі яна ёсьць). Прынцып: сустракаюць па адзеньні дзейнічае і на зоне. Па тваім зьнешнім выглядзе і начыньні "кешара" можна меркаваць, які "падагрэў" табе паступае з волі.

Як ні дзіўна, але на 24 лютага 1997 года, па гараскопе мне выпадала "прыемная навіна". Прыкладна ў другой палове дня ляснула фортка, мент назваў маё прозьвішча і рэзка дадаў: "С вещами на выход". Я хутка скруціў свае рэчы і на разьвітанне пацiснуў рукі. Усім акрамя "апушчанага", які сядзеў каля "дальняка" і жаласьліва пазіраў на тое, што адбываецца ў "хаце". Я падхапіў "кешар", турэмныя рэчы, і, павярнуўшыся тварам да сцяны выйшаў на "прадол". Нешта падобнае адбывалася і ў суседніх камерах: і адтуль па аднымдва чалавекі выводзілі на "прадол" і ставілі ўдоўж сьцяны.

Перад тым, як нас раскідалі па "этапках" (камерах, дзе чакаюць этапу), зрабілі яшчэ адзін шмон. Пры гэтым пераважна шукалі лісты, альбо "мулі" (цыдулкі). Мусіць тут вельмі баяцца, каб нейкая інфармацыя не прасачылася скрозь гэтыя сьцены. І што вельмі крыўдна, пры гэтым яны могуць забраць любую рэч, якая спадабаецца. А матывуюць гэта адным словам: "Не положено". Мне давялося развітацца з падарункам суседа па "хаце" — мундштуком, вырабленым са стрыжня, цюбіка з-пад пасты і па-майстэрску абплеценым каляровымі ніткамі з распушчанай шкарпэткі.

У "этапцы", куды мяне упіхнулі, на нарах ужо ляжалі два зэкі. Адзін зь іх быў "хімік", праз якога пазьней я змог



перадаць інфармацыю на волю. Другі быў страшэнна зьбіты і толькі соп. Праз нейкі час яго выкінулі з камеры і што далей было зь ім, — мне невядома.

У камеры было вельмі холадна, праз незашклёнае вакно, між чыгунных кратаў сыпала сьнегам. Але гэты невялікі адстойнік напаўняўся ўсё новымі і новымі людзьмі. Увечары ў камеру набілася так шмат народу, што ляжаць на нарах даводзілася толькі бокам. Пераважна, тут былі "хімікі". Адзін зь іх быў маім спадарожнікам, асуджаным на два гады калоніі пасяленьня. Яго закінулі сюды прама з "бальнічкі", дзе ён правёў апошні тыдзень, але вылечыцца як след ня здалеў. Асуджаны ён быў упершыню, і што сабой уяўляе калонія пасяленьня — зусім ня ведаў. Перад вячэрай да нас закінулі яшчэ пару "транзітнікаў", здаецца, яны былі з жодзінскай турмы. Мне выпала магчымасьць разам зь імі яшчэ раз наведаць турэмную лазьню, дзе я застудзіў вуха і напрацягу некалькіх тыдняў страшэнна пакутаваў ад болю. Пад раніцу вырашылі заварыць "чыф", але ж электрычнасьці не было. Давялося абкруціць "зэчку" (кубак) анучай і падпаліць. Камеру закапцілі моцна, а "чыфу" атрымалася па два глыткі. Пад вечар нас перакінулі ў іншую камеру, і праз нейкі час пачалі загружаць у "аўтазэкі" (машына з жалезнай будкай, усярэдзіне падзеленая на некалькі клетак). Чамусьці я апынуўся адзін у поўнай цемры за жалезнымі дзьвярыма клеткі. Адносна хутка даставілі на прыгарадную станцыю, на запасных рэйках якой стаяў "сталыпінскі вагон". Зьнешне ён быў падобны на багажны з двума закратаванымі вокнамі, усярэдзіне падзелены кратамі на клеткі.

З абодвух бакоў вагона стаялі аўтаматчыкі з сабакамі. Азірнуцца і агледзецца было немагчыма. Усіх пасадзілі на кортачкі, прымушаючы трымаць рукі за галавою і глядзець ў патыліцу папярэдняму. Нешта падобнае мне даводзілася назіраць у фільмах аб другой сусьветнай вайне, калі фашысты пераганялі савецкіх ваеннапалонных.

Начальнік канвою, які хадзіў уздоўж вагона нагадваў: "Крок улева, крок управа, спроба пабегу — страляем без папярэджаньня"! Мусіць, толькі ў савецкіх фільмах былі спробы ўцёкаў, калі палонныя кідаліся на рулі аўтаматаў пазяхаючых немцаў. Закачанелы я сядзеў па цэўку ў вадзе. З усяго этапу стаяў толькі адзін чалавек — гэта быў аднаногі стары на мыліцах. Відаць у яго мерзьлі рукі, і час ад часу ён перахопліваў сваю сетку ў зубы. Насупраць мяне, скручыўшыся, сядзеў мужчына апрануты ў лёгенькі швэдар на голае цела. Было балюча глядзець, як на нічым не прыкрытую сьпіну сыпаў мокры сьнег. Хутчэй за ўсё, яго забіралі ў цёплыя летнія дні. Але ж пакуль ішло сьледства, ужо заканчвалася зіма.

Працэс загрузкі ў вагон быў вельмі хуткім і адпрацаваным. Па адным зэку заганялі ў вагон і па чарзе запаўнялі клеткі. Начальнік канвою загадаў, каб я дапамог свайму суседу ўскараскацца ў вагон. Ён тыркаў кійком у падножку вагона і не мог патрапіць у дзверы. Пазьней, калі вочы прызвычаліся да цемры, і кожны пачаў шукаць месца, куды прыткнуцца, я зразумеў, што мой сусед сьляпы. А наперадзе яго чакала яшчэ дзесяць гадоў строгага рэжыму. Калі вагон прычапілі і мы крануліся зь месца, нас пачалі сартаваць адпаведна рэжымаў. Некага высаджвалі, а ягонае мейсца займаў іншы, і таўкатня працягвалася на ўсім шляху. Вагон рухаўся марудна, яго адчаплялі амаль у кожным населеным пункце, дзе была турма альбо зона. Мы падоўгу чакалі, пакуль нас прычэпіць і пацягне ўжо іншы цягнік. Нездарма гэты маршрут зэкі называюць "кругасветным". Дзякуй Богу, што Беларусь набыла незалежнасьць, і наш "сталыпін" больш не курсуе па шырокіх прасторах Расіі. У дарозе пасьпяваеш пазнаёміцца з рознымі людзьмі, у асноўным, гаворка ідзе аб своеасаблівасьцях беларускіх турмаў і зонаў. Таксама можна пачуць інфармацыю пра "пеўня" альбо асуджанага мянта, якія патрапілі ў вагон. Добра, калі гэта этап зімовы, і табе пашанцавала з канвоем. Калі ж этап летні, адбываецца ў спякотны дзень і канвой дэманструе "сілу", вытрымаць яго вельмі цяжка. Ужо ў калоніі, я чуў пра этапы, калі з жалезнай клеткі, набітай, як кансервовая бляшанка, даводзілася выносіць нерухомае цела. Напрыканцы дарогі я пазнаёміўся з ужо немаладым чалавекам, які свой першы тэрмін, адбываў у калоніі пасяленьня. Я пацікавіўся, што яна сабой уяўляе, на што ён мне каротка адказаў: "Жыць можна. Усё залежыць ад цябе самога".

Наш вагон спыніўся на станцыі Горкі.

**Мікола КАЧАН**

*(Працяг будзе)*

*Працяг. Пачатак у № 2-3.*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96"**
**Выходзіць два разы на месяц на беларускай, англельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.**

*У нумары скарыстаны малюнкі А. Карповіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"*